ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 10 (2464) 7 сакавіка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

ПАСЛЯ ВАНДРОЎКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНУ




## "БЕЛАРУСЬ, ПРАЦЯГНІ РУКІ ДРУЖБЫ..."

**Нядаўна на Беласточчыне адзначаліся 40-я ўгодкі з дня ўтварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Гэта была рэальная магчымасць пераканацца, як многа могуць зрабіць людзі, аб'яднаныя на грунце нацыянальнай ідэі. З гэтай нагоды сваімі думкамі дзеліцца намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма" Уладзімір МЯЛЕШКА, які пабываў на ўрачыстасцях.**

Яшчэ летась мы з Уладзімірам Юзвюком (ён быў укладальнікам "Беларускага календара". 1996) абмяркоўвалі асобныя артыкулы, рыхтавалі прывітальны тэкст да юбілею БГКТ і... цягнулі па чарзе да трамвайнага прыпынку цяжкі партфель з карэктурай "Календара". Развітваючыся, Валодзя сказаў: "Да сустрэчы ў лютым у Беластоку".

Замест 18 лютага, як планавалася, урачыстасці адбыліся 17-га. Здарылася так, што менавіта на нядзелю быў прызначаны Лехам Валенсам у якасці аднаго з апошніх дзяржаўных крокаў рэферэндум па пытанні аб далейшым лёсе прыватызацыі ў Польшчы. Рэферэндум не адбыўся: не прыйшла патрэбная колькасць галасуючых.

А ўрачыстасці ў сувязі з 40-годдзем БГКТ адбыліся і прайшлі пры перапоўненых залах. Гэтай падзеі была аддадзена належная ўвага з боку вышэйшага кіраўніцтва і Беларусі, і Польшчы.

Беларуская дэлегацыя на чале з намеснікам прэм'ер-міністра краіны Уладзімірам Русакевічам знаходзілася на Беласточчыне тры дні. У састаў дэлегацыі ўваходзілі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі і міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў, іншыя афіцыйныя асобы. Іх суправаджаў генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў.

**НА ЗДЫМКУ: на ўрачыстым пленуме БГКТ выступае старшыня праўлення гэтай арганізацыі Ян СЫЧЭЎСКІ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

(Заканчэнне на 4-й стар.).

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СТРАТЭГІЧНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ

"УСХОД - ЗАХАД"

## МЫ ВЫБІРАЕМ УСХОД

**Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў "Усход--Захад" быў утвораны ў маі 1992 года. Ён адразу прыцягнуў да сябе ўвагу грамадскасці шырокім прадстаўніцтвам і актыўнай дзейнасцю, наладзіўшы шэраг міжнародных канферэнцый, семінараў, "круглых сталоў" і выданнем аналітычных прац. Некаторыя стратэгічныя распрацоўкі камусьці падаюцца спрэчнымі, але ўвогуле гэта нармальна. Галоўнае, каб іх было як мага больш і зыходзілі яны не толькі з адной арганізацыі. Узнікненне недзяржаўнага сектара як альтэрнатывы ўрадавым структурам у распрацоўцы развіцця дэмакратычных працэсаў у Беларусі -- з'ява адметная, і гэта вельмі добра. Але кепска, што ўлады пакуль ніяк не спрыяюць пашырэнню і ўплыву трэцяга сектара, а наадварот, чыняць усялякія перашкоды нават тым незалежным арганізацыям, якія сваёй справай даказалі мэтазгоднасць такой дзейнасці. Усе дасягненні і праца цэнтра ў значнай ступені залежалі і залежаць ад апантанасці, энергіі, упартасці і, вядома, арганізатарскіх здольнасцяў ініцыятара яго стварэння і кіраўніка Анатоля Майсені. Яго добра ведаюць у краіне як журналіста, а цяпер яшчэ як палітолага і прэзідэнта незалежнага цэнтра "Усход--Захад".**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

СЁННЯ ІВАНУ МЕЛЕЖУ СПОЎНІЛАСЯ Б 75

## "ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАЙ ЗЯМЛІ І ДА РОДНАГА НАРОДА НАРОДЖАНЫ МАЕ КНІГІ..."

1996-ты -- год своеасаблівастужлівых Мележаўскіх юбілеяў: у лютым яму споўнілася б 75, а ў жніўні будзе 20 гадоў, як Івана Паўлавіча няма з намі. Як сёння, памятаю жалобную залу Дома літаратара, запоўненую людзьмі -- труна, засыпаная кветкамі, сярод якіх блакітнымі зорачкамі цвілі васількі -- развітальна-шчымлівы дар роднай зямлі свайму выдатнаму сыну. Ці не зачаста забірае яна таленавітых сваіх песняроў, асабліва ў апошняе дваццацігоддзе: Мележ, Караткевіч, Макаёнак, Крапіва, Адамовіч, Асіпенка, Панчанка, Танк, Сач[illegible] Чыгрынаў, Звонак, і гэта яшчэ д[illegible]ка не поўны пералік тых, хто аддаваў радзіме, народу ўсяго сябе без астатку. Іван Мележ пайшоў на 56-м годзе жыцця, і з болем думаеш, колькі б ён паспеў напісаць за гэтыя 20 гадоў, а мог бы яшчэ жыць і пасля 75! "Поўна ва мне задум, якія прападуць са мною..." -- пісаў ён, як быццам [illegible]бачыў свой ранні адыход. Не паспе[illegible]апісаць "Палескую хроніку", не прачытаем мы іншыя яго раманы, аповесці, што выспявалі ў душы пісьменніка. Але і тое, што ён пакінуў са сваёй творчай спадчыны, назаўсёды застанецца ва ўдзячнай памяці кожнага шчырага беларуса, у сусветнай літаратуры.

Рана вызначыўся пісьменніцкі лёс Івана Мележа. Ужо ў 1939 годзе ў газеце "Чырвоная змена" з'яўляецца яго першы верш "Радзіме", якраз тады, калі ён пачаў працаваць на сваёй радзіме, у Хойніках, перад паступленнем у Маскоўскі інстытут філасофіі, гісторыі і літаратуры. Вучоба ў гэтым інстытуце была перапынена вайсковай службай, а потым і Вялікай Айчыннай вайной, якая заспела яго ў Карпатах, ля самай граніцы. На фронце Іван Мележ вёў дзённікі, якія і сталі пачаткам яго сур'ёзнай працы ў прозе (цяпер гэтыя дзённікі адкрываюць 9-ты том дзесяцітомнага збору твораў пісьменніка).

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НА КАНЦЭРЦЕ ЛЯВОНЧЫКАЎ

## ПОСПЕХ

Хто не жадае сёння ўзняцца над будзённасцю, дакрануцца да таямніцы харастава, гармоніі, супакоіць душу, убачыць свет зусім іншым? Але як гэта зрабіць? А хоць бы так -- завітаць увечары ў касцёл Святога Роха, што на Залатой Горцы ў Мінску, які зараз існуе і як храм, і як канцэртная зала, і паслухаць добрую музыку.

Колькі знакамітых выканаўцаў пабывала тут з канцэртамі, колькі маладых талентаў прыме яшчэ гэтая ўтульная зала, колькі задаволеных слухачоў пакіне яе з надзеяй на новую сустрэчу з цудоўным.

Вось і гэтым зімовым марозным вечарам доўга не сціхалі апладысменты, было шмат кветак і нават салодкіх падарункаў. А прызначалася ўсё юнаму цымбалісту, выхаванцу Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі -- Міхаілу Лявончыку, які прыемна здзівіў сваім высокім майстэрствам і разнастайным рэпертуарам, паказаў шырокія магчымасці нашага народнага інструмента -- цымбалаў.

У перапоўненай зале побач з творамі сучасных беларускіх кампазітараў гучала музыка Чайкоўскага, Балакірава, Сен-Санса, Бізэ-Сарасатэ і нават Гершвіна-Фралова.

**НА ЗДЫМКУ: бацька і сын -- Аляксандр і Міхаіл ЛЯВОНЧЫКІ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Заканчэнне на 6-й стар.).



ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ:*

## ЦЕСНЫ САЮЗ ПРЫ ПОЎНАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ САМАСТОЙНАСЦІ



**"Першы афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Маскву аказаўся самым рэзультатыўным", -- так заявіў Аляксандр Лукашэнка на кароткім брыфінгу, праведзеным пасля падпісання кіраўнікамі дзвюх дзяржаў сумесных беларуска-расійскіх дакументаў. Цырымонія падпісання адбылася ў Пасольскай зале крамлёўскай рэзідэнцыі Барыса Ельцына.**

**А пачаўся візіт сустрэчай беларускага і расійскага прэзідэнтаў. Пасля пратакольных мерапрыемстваў прайшлі іх перагаворы сам-насам, у час якіх, паводле слоў кіраўнікоў дзяржаў, абмяркоўваліся пытанні, што датычаць непасрэдных лёсаў людзей — грамадзянства.**

**Потым адбылася сустрэча ў расшыраным саставе, у якой прынялі ўдзел не толькі прэзідэнты, але і міністры, члены прэзідэнцкіх каманд, банкіры. Вынікам гэтых перагавораў стала падпісанне двух дакументаў -- сумеснай заявы прэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, а таксама Пагаднення аб урэгуляванні прэтэнзій фінансавага характару.**

**Як заявіў Барыс Ельцын, два гэтыя дакументы абавязкова трэба разглядаць разам, таму што яны накіраваны на інтэграцыю нашых дзяржаў ва ўсіх сферах супрацоўніцтва, але пры ўмове, што дзяржавы захаваюць свой аўтарытэт, незалежнасць і дзяржаўную цэласнасць. Паводле яго слоў, інтэграцыю трэба пачынаць з фінансавых адносінаў. Да гэтага часу Беларусь не разлічылася з Расіяй за энерганосьбіты, а Расія з Беларуссю -- за тактычныя і стратэгічныя ракеты, у якіх змяшчаўся уран. Падлік паказаў, што ў гэтых запазычанасцях ёсць некаторая розніца. Аднак, паводле слоў Барыса Ельцына, беларускі і расійскі народы стог гадоў жывуць у міры, да таго ж імкненне Аляксандра Лукашэнкі да інтэграцыі з Расіяй падтрымліваецца расійскім народам. "Таму, -- сказаў пэзідэнт Расіі, -- мы выйшлі на нулявы варыянт. З гэтага моманту ніхто нікому не вінен".**

**На думку абодвух прэзідэнтаў, само жыццё штурхае на інтэграцыю дзвюх дзяржаў, на стварэнне моцнага эканамічнага саюза. Зрэшты, як яны заявілі, гэта будзе не той саюз, аб якім марылі камуністы. Гэты саюз будзе вызначацца цеснымі эканамічнымі, палітычнымі, духоўнымі, культурнымі сувязямі, але пры поўнай дзяржаўнай самастойнасці. "Больш таго, -- сказаў Барыс Ельцын у ходзе перагавораў, -- мы наогул не закранаді пытанняў, што датычаць незалежнасці".**

**Паводле слоў прэзідэнтаў, гэта быў звычайны запланаваны раней візіт. І, як сказаў Аляксандр Лукашэнка, кіраўнікі дзвюх дзяржаў у гэты раз не зрабілі нічога недзвычайнага -- яны зраб тое, што трэба нар дам абедзвюх дзяржаў.**

## ЗАЯВА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р. ЛУКАШЭНКІ І ПРЭЗІДЭНТА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ Б.М. ЕЛЬЦЫНА

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі, глыбока і ўсебакова прааналізаваўшы ход развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Расіяй, увесь спектр двухбаковага супрацоўніцтва, лічаць неабходным у гэтых умовах зрабіць далейшыя захады па шляху нарошчвання ўзаемадзеяння, надаць якасна новы характар працэсу беларуска-расійскай інтэграцыі ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай, гуманітарнай і іншых галінах.**

**Грунтуючыся на гістарычных сувязях Беларусі і Расіі, пачуццях дружбы і роднасці двух народаў, іх волі да далейшага збліжэння, выказанай у выніках майскага (1995 года) рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і ў кастрычніцкіх (1995 года) рашэннях палат Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі, Прэзідэнты лічаць, што аб'яднанне матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў абедзвюх дзяржаў з'яўляецца абавязковай умовай пад'ёму эканомікі, стварэння адпаведных умоў для павышэння ўзроўню жыцця і духоўнага развіцця, раскрыцця патэнцыяльных магчымасцей кожнага чалавека.**

**Імкненне брацкіх народаў да яднання прадыктавана не толькі гістарычнай неабходнасцю, агульнасцю лёсаў, духоўнай блізкасцю, але і дакладна выражанымі эканамічнымі патрэбнасцямі, асабліва ўлічваючы ўзаемазалежнасць і ўзаемадапаўняльнасць гаспадарчых комплексаў Беларусі і Расіі.**

**Прэзідэнты даручаюць урадам дзвюх дзяржаў у месячны тэрмін падрыхтаваць праект дагавора, які б вызначаў прынцыпы і асноўныя напрамкі далейшага ўсебаковага збліжэння. Пры гэтым Прэзідэнты зыходзяць з таго, што ў аснову асноў павінна быць пастаўлена задача ўзгаднення праводзімых эканамічных рэформаў, сінхранізацыі і уніфікацыі нацыянальных заканадаўстваў, стварэння сумесных органаў дзяржаўнага кіравання, што дазволіць сфарміраваць агульны рынак тавараў і паслуг, капіталаў і рабочай сілы і забяспечыць роўныя ўмовы, магчымасці і гарантыі для дзейнасці суб'ектаў гаспадарання і свабоднага прадпрымальніцтва. Пры гэтым павінна быць дасягнута больш інтэнсіўная канцэнтрацыя вытворчых, фінансавых і працоўных рэсурсаў для рэалізацыі сумесных эканамічных праграм, дзяржаўнай падтрымкі развіцця вытворчай кааперацыі, стварэння транснацыянальных вытворчых аб'яднанняў, перш за ўсё фінансава-прамысловых груп. Асаблівая ўвага будзе ўдзелена ўзгадненню сацыяльнай палітыкі, гарманізацыі нацыянальных сістэм сацыяльнай абароны насельніцтва, выраўноўванню ўзроў пенсійнага забеспячэння, дапамог і льгот ветэра. вайны і працы, падтрымцы інвалідаў і малазаб...печаных сем'яў.**

**Прэзідэнты маюць намер расшыраць сферу сумеснай дзейнасці, перш за ўсё ў такіх галінах, як правы чалавека і грамадзяніна, кантакты паміж людзьмі, культурныя сувязі, адукацыя, навука, а таксама знешнепалітычная дзейнасць, рэгіянальная бяспека, ахова навакольнага асяроддзя, барацьба з арганізаванай злачыннасцю.**

**Прэзідэнты Беларусі і Расіі ўпэўнены ў тым, што паглыбленне супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі як раўнапраўнымі суб'ектамі міжнароднага права служыць інтарэсам умацавання Садружнасці Незалежных Дзяржаў.**

*г. Масква, 27 лютага 1996 года.*

**А.Р. ЛУКАШЭНКА, Б.М. ЕЛЬЦЫН.**

*"Я і далей буду рабіць усё для таго, каб знешняя палітыка нашай рэспублікі прыносіла карысць беларускім грамадзянам, а не была заложніцай групавых інтарэсаў.*

*Міждзяржаўная інтэграцыя -- гэта магістральны напрамак развіцця міжнародных адносінаў у канцы дваццатага стагоддзя.*

*Нельга ж прызнаць нармальным, што на парозе трэцяга тысячагоддзя, калі вядучыя дзяржавы Паўночнай Амерыкі, Еўропы інтэгруюцца, мы рвём па-жывому сувязі, якія складваліся стагоддзямі.*

*Савецкі Саюз у свой час недаацаніў еўрапейскую інтэграцыю. Напэўна, многія з вас памятаюць, як у нас лаялі "Агульны рынак", які сёння стаў лакаматывам еўрапейскага прарыву ў дваццаць першае стагоддзе.*

*Цяпер Захад, мне здаецца, робіць такую ж памылку, калі з падазрэннем глядзіць на інтэграцыйныя працэсы ўнутры СНД, асабліва на беларуска-расійскае збліжэнне.*

*Не трэба журналістам палохаць адзін аднаго ні стратай суверэнітэту, ні рэстаўрацыяй Расійскай імперыі або Савецкага Саюза.*

*Збліжэнне Беларусі і Расіі будзе прымаць адэкватныя сучасным рэаліям арганізацыйныя формы. Як мадэль я бачу Еўрапейскі Саюз, які дае магчымасць разумна спалучаць інтэграцыю з суверэнітэтам народаў. Інтэграцыя павінна праводзіцца ў першую чаргу ў інтарэсах простых людзей".*

*(З выступлення Прэзідэнта Беларусі А.ЛУКАШЭНКІ ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М.Ламаносава 27 лютага 1996 года).*

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

РАБОТНІКІ ювелірнай вытворчасці гомельскага вытворчага аб'яднання "Крышталь" прыступілі да выканання ганаровага заказа -- ім даручана вырабіць узоры беларускіх урадавых узнагарод.

КОЖНЫ чацвёрты, хто заняты ў працы, не атрымаў яшчэ зарплату за снежань мінулага года. Як паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, запазычанасць па зарплаце за 1995 год на пачатак лютага складала 509 мільярдаў рублёў.

ІНТАРЭСЫ Каралеўства Нідэрланды ў Мінску будзе прадстаўляць ганаровы консул. Ім стаў Аляксандр Вінакураў, намеснік дырэктара па знешнеэканамічных пытаннях мінскага аддзялення Гандлёва-прамысловай палаты Рэспублікі Беларусь.

ЭТЫЛІРАВАНЫ бензін, які ўтрымлівае тэтра-этылсвінец, ад якога даўно ўжо адмовілася Еўропа, пакуль што выкарыстоўваецца ў Беларусі. А менавіта ён і з'яўляецца прычынай пагаршэння здароўя мінскіх дзяцей, у крыві якіх быў знойдзены недапушчальна высокі працэнт свінца, ртуці і кадмію.

"БРЫЛЬЯНТАВАЯ зорка" якасці і "Факел Бірмінгема" прысуджаны гомельскаму навукова-вытворчаму аб'яднанню "Ратон". Але ні па "Зорку" ў Мексіку, ні на "Факел" у ЗША ніхто з "Ратона" не паедзе: няма на гэта грошай.

ПА ПАПЯРЭДНІХ разліках Гідраметцэнтра і штаба Грамадзянскай абароны Мінска, у сакавіку-красавіку чакаецца ў выніку раставання снегу рэзкі ўздым узроўню вады ў Мінска-Вілейскай воднай сістэме. Найбольш пагрозлівае становішча можа скласціся ў Заводскім, Ленінскім і Цэнтральным раёнах сталіцы. На іх тэрыторыі не выключана падтапленне вадой участкаў аўтадарог, некаторых дамоў і аб'ектаў гарадской гаспадаркі.

*КВЕТКІ З ГАЛАНДЫІ*



**У Гомелі працуе магазін "Архідэя", у якім прадстаўлены жывыя і штучныя кветкі, розныя кампазіцыі ў кошыках і вазонах. Але самае галоўнае -- у магазіне кожны дзень можна купіць гваздзікі, калы, ружы. Паступаюць яны сюды з Галандыі.**

*ПАЛІТЫЧНЫЯ КУЛІСЫ*

## БАГДАНКЕВІЧ МАЕ НАМЕР ПРАД'ЯВІЦЬ ІСК

**На прэс-канферэнцыі, што адбылася ў Нацыянальным культурна-асветным цэнтры, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч у сувязі з пытаннем журналіста, якое тычыцца парушэнняў правоў і свабод у Беларусі, зрабіў заяву.**

**Ён паведаміў, што мае намер прад'явіць судовы "іск спадару Прэзідэнту ў сувязі з яго пастаянна лжывымі заявамі". Нанесены яму маральны ўрон будучы ісцец вызначае сумай 100 мільёнаў рублёў. У выпадку выйгрышу справы ў судзе С.Багданкевіч паабяцаў перадаць спагнаную з Прэзідэнта суму на карысць грамадскага аб'яднання "Дзеці ў бядзе".**

*100-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ*



**Піліп Алешчанка, жыхар Віцебска, адзначыў стогадовы юбілей. Усё было ў жыцці Піліпа Яфрэмавіча: і доўгія гады вайны, ды не адной, бо ваяваў ён і ў грамадзянскую, і ў Вялікую Айчынную, і яшчэ даўжэйшыя гады працы дзеля хлеба надзённага. Павіншаваць ветэрана прыйшлі прадстаўнікі працоўнага калектыву будаўнічага трэста N 9, у якім працаваў П.АЛЕШЧАНКА да выхаду на пенсію.**

# МЫ ВЫБІРАЕМ УСХОД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Стаўленне да дзейнасці і творчасці спадара Майсені ў грамадстве неадназначнае. Цікава, што ў інстытуце, дзе мы разам вывучалі замежныя мовы, нават у тыя гады яго асоба выклікала рознагалоссі: адны звязвалі з ім пэўныя надзеі і спадзяванні, іншыя ж не ўспрымалі зусім. Наогул, гэта можна разглядаць як першую адзнаку, што такі чалавек -- асоба. У інтэрв'ю "Голасу Радзімы" Анатоль МАЙСЕНЯ расказвае пра сябе, свой цэнтр, пра сёння і заўтра Беларусі.**

*-- Перад сустрэчай неяк самі сабой згадаліся студэнцкія гады і час, які бавілі ў інтэрнаце на Омскім завулку (цяпер завулак П.Румянцава. -- Рэд.). Ужо тады ты не вельмі прагнуў студэнцкіх тусовак, а звычайна браў стос падручнікаў, накіроўваўся ў чытальню, якая называлася ленінскім пакоем, і ледзь не апошнім яе пакідаў. Такое ўражанне, што ты ўжо тады ведаў, чым будзеш займацца цяпер.*

-- Так, мой жыццёвы шлях быў дзесьці запраграмаваны якраз у інстытуце. Менавіта тады я пачаў вельмі сур'ёзна займацца студэнцкімі даследаваннямі па грамадскіх навуках, якія прывялі мяне потым у паліталогію. І хоць я быў у ліку першых навучэнцаў на курсе, добрага размеркавання не прадбачылася. На той час я быў невыязны. Мой бацька, нацыянальна свядомы чалавек, пасля вайны сем гадоў правёў у турме за "нацыяналізм", толькі за тое, што падчас акупацыйнага рэжыму працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Нясвіжскім раёне. Яму было тады 17--20 гадоў. Пасля вайны ён стаў чарговай ахвярай рэпрэсійнай сталінскай машыны (цяпер рэабілітаваны). Быў і яшчэ адзін "грэх". Мае родныя цётка і дзядзька яшчэ ў дваццатыя гады выехалі ў ЗША і жылі ў Нью-Джэрсі. Яны засталіся шчырымі беларусамі і сумленнымі людзьмі. Але ў тыя гады КДБ на такія рэчы глядзеў з недаверам і ставіўся да эмігрантаў часцей за ўсё варожа. На свой лёс я не крыўдую і нават яму ўдзячны. Усе сумныя жыццёвыя абставіны толькі загартоўвалі мяне, дапамагалі назапасіць трываласць, цвяроза ставіцца да абставін, выжываць і заставацца самім сабой.

*-- Таму пасля заканчэння пайшоў працаваць у камсамол?*

-- І зусім не шкадую. У Фрунзенскім райкоме я кіраваў маладзёжнымі справамі. Сапраўды, гэта была сістэма, якая руйнавала індывідуальнасць, рабіла чалавека толькі вінцікам. Аднак гэта была і асветная школа адносін паміж людзьмі, кантактаў. Многа было смешнага, дэкаратыўнага, але, каб зразумець штучнасць той сістэмы, было вельмі карысна там папрацаваць. Так, былі моманты, калі рабілася няёмка, але было і цікава: турыстычныя злёты, дыскатэкі, дыскусіі. Адчувалася нейкая звязка, маладзёжны асяродак, які, на маю думку, сёння мы згубілі.

*-- Ну а як ты прыйшоў у журналістыку?*

-- Да таго часу была яшчэ аспірантура і абарона дысертацыі па тэме, якая датычылася неакансерватызму. Вядома, гучала яна ў крытычным тоне, бо інакш я яе тады не абараніў бы. Але 80 працэнтаў у ёй -- гэта было пазітыўнае даследаванне неакансерватызму як ідэалагічнай і палітычнай плыні ў ЗША, было там і эканамічнае вымярэнне, і галоўныя ідэалогіі неакансерватызму, і праламленне гэтых ідэй праз рэйганаўскую адміністрацыю, і г.д. Гэта была надзвычай цікавая і карысная для мяне праца ў спецсховах, бібліятэках, сустрэчы з навукоўцамі, этап інтэнсіўнага пазнання жыцця, назапашвання ведаў. Але што было рабіць у 1987 годзе з амерыканістыкай у Беларусі? Тады нават наша МЗС выглядала філіяй саюзнага. Я ж чалавек дзеяння і, калі не атрымалася займацца сур'ёзнай навукай, дык пайшоў у журналістыку. Пачынаў на Беларускім тэлебачанні -- гэта была вельмі добрая магчымасць агучыць свае погляды, што часам заканчвалася разглядам персанальнай справы камуніста Майсені. Асабліва шмат мне дала як журналісту праца ў якасці палітычнага аглядальніка ў "Народнай газеце". Працаваў і ўласным карэспандэнтам ТСН (тэлевізійная служба навін). А гэта камандзіроўкі тады і ў Горны Карабах, і Паўднёвую Асецію. Нарэшце, я асвятляў Віскулёўскія пагадненні. Да развалу Саюза ў мяне выпрацавалася асабістае стаўленне і не таму, што я homo soveticus, а таму, што працэс суверэнізацыі павінен быў развівацца іншым шляхам. Мару выдаць кнігу артыкулаў пра свой час, пачынаючы з 1987 года.

*-- Часам можна пачуць, што палітолаг Анатоль Майсеня сярэдзіны 90-х у значнай ступені адрозніваецца ад журналіста Майсені канца 80-х. А што ён сам пра гэта думае?*

-- Я не баюся прызнацца, што ў чымсьці памыляўся. Менавіта таму я хацеў бы, каб у маю кнігу ўвайшлі ўсе артыкулы канца 80-х. Разам з тым, як ішла эвалюцыя разумення нашай гісторыі, хто мы і адкуль, мянялася маё ўяўленне і стаўленне да падзей мінулага і сучаснасці. Дарэчы, я першы, хто напісаў артыкул, які ўзняў другую хвалю развянчання сталінізму, а потым ужо пачалася дыскусія аб ахвярах сталінізму. На час, калі паўстала тэма Курапатаў, грамадская думка была ўжо падрыхтавана да нармальнага стаўлення і рэакцыі. У асноўным мне ставяць у віну крытычныя адносіны тады да Шушкевіча і БНФ. Увогуле я адказаў бы на гэта так: як журналіст і палітолаг, я лічу, што галоўнае ў маёй справе -- гэта выконваць ролю "абмежавальніка хуткасці". Гэта не перашкаджае рухацца даволі хутка, але да пэўнай мяжы, якую нельга перасякаць, бо хуткасць тады робіцца небяспечнай. Так, я ставіўся вельмі крытычна да Шушкевіча і да БНФ, але не таму, што не падзяляў іх погляды, а таму, што ў палітыцы Шушкевіча, і асабліва БНФ, было шмат стыхійнага, неасэнсаванага, недасканалага. Хіба я супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай? Не. Я супраць тых метадаў, якія яны выбралі для ўкаранення беларускай мовы, супраць таго графіка, [illegible]кому мусіў выконвацца Закон аб м[illegible]. У краіне, дзе пераважная большасць размаўляе па-руску, -- гэта проста было нерэальна. Без асалоды я пісаў пра гэта, засцерагаў і Шушкевіча, і лідэраў БНФ. У выніку мы маем рэферэндум з усімі яго наступствамі. Сітуацыя сёння іншая, а небяспека ўжо з зусім іншага боку. Цяпер наогул можа [illegible] зруйнавана і нацыянальная культ[illegible], і ўсё, што было напрацавана лепшага за апошнія гады. Зараз я бачу сваю місію ў тым, каб спрыяць захаванню дасягнутага. Магчыма, людзі і бачаць тут нейкую супярэчнасць, але я хацеў бы запытаць, дзе той пункт адліку супярэчнасці. Толькі ў тым, што тады быў не згодны з Пазьняком, а сёння ў чымсьці падтрымліваю БНФ і ўвогуле нацыянальна арыентаваныя сілы? Дык змяніліся ўмовы і сітуацыя. Я не хачу ісці ні за Пазьняком, ні за Шушкевічам, ні за Лукашэнкам. Мая справа заўсёды была аналізаваць, разважаць, выказваць свае думкі, прапановы, што ёсць, на маю думку, самае вялікае дасягненне беларускай дэмакратыі.

*-- Здаецца, вось мы і падышлі да гісторыі ўтварэння цэнтра.*

-- Я добра ўяўляю, што маё ўздзеянне на грамадскую думку як журналіста або аналітыка абмежаванае. Наогул, што можа зрабіць адзін? Становішча ў краіне вымагала хуткасных дзеянняў. Я ўжо казаў, што да суверэнітэту Беларусі ставіўся і стаўлюся дваяка: з аднаго боку, я разумеў, што альтэрнатывы суверэнітэту няма, але, з другога, разумеў, што атрыманы суверэнітэт, не падмацаваны ідэалогіяй развіцця Беларусі, застанецца суверэнітэтам фармальным. Ні ўлады, ні людзі не ведаюць, дзеля чаго ён абвешчаны, да чаго і як ісці, якая этапнасць развіцця. Так прыйшла задума стварыць незалежны інтэлектуальны цэнтр. Я запрасіў у заснавальнікі шмат уплывовых людзей: прадстаўнікоў урада, Вярхоўнага Савета, рэдактараў газет, прадпрымальнікаў. Мы пачалі "прабіваць брэш" у свядомасці людзей праз кантакты, дыскусіі і г.д. Мы арганізавалі паездку групы беларускіх вытворцаў у Гамбург, якая атрымалася вельмі эфектыўнай і плённай. Многія завязалі карысныя кантакты для супрацоўніцтва. Наладзілі беларуска-расійскі дыялог прадстаўнікоў Думы, Вярхоўнага Савета і ўрада, які даў штуршок развіццю ўзаемаадносін паміж Расіяй і Беларуссю. За гэты час мы правялі шэраг прадстаўнічых міжнародных форумаў (у цэнтры працуюць даследчыя структуры), выдалі больш за 20 аналітычных прац, маем аналітычны часопіс "Belarus Monitor". Усё гэта на першым этапе спрацавала, і мы маем пэўныя вынікі. Але мінулы год быў не самы лепшы для нас. Мы адчуваем моцнае супрацьстаянне з боку уладаў. Пашырэнне грамадскай ініцыятывы, на жаль, не ўваходзіць у мэты цяперашняга ўрада.

*-- Дык што, па вашых прагнозах, нас чакае наперадзе?*

-- Любая спроба аднавіць сёння Савецкі Саюз асуджана на правал для тых, хто будзе гэтым займацца. Тым не менш, на цяперашні час альтэрнатывы інтэграцыі з Расіяй я не бачу. Вядома, гэта будзе рэінтэграцыя. Што ні кажы, агульнасць інтарэсаў у славянскіх рэспублік ёсць. І справа тут не ў панславізме, а ў гістарычным суіснаванні, сутрываласці эканамічных механізмаў славянскіх краін. Мы жывём у адным культурным і рэлігійным асяроддзі, а таму рэінтэграцыя непазбежна будзе адбывацца, можа, праз 5 ці 10 гадоў. Гэта не мае ўласнае жаданне, а, у першую чаргу, грамадская думка і менталітэт беларускага народа. Іншая справа, што працэс рэінтэграцыі, які адбываецца цяпер, вельмі варожы для існавання нацыянальнай справы.

*-- І гэты працэс прывядзе да страты суверэнітэту?*

-- Мяркую, не. Тут справа ў іншым. Возьмем, напрыклад, Еўрапейскую супольнасць. Хоць там Германія і займае пазіцыю эканамічнага лідэра, але ўсе краіны маюць роўны статус і роўныя мажлівасці. У нашым трохкутніку Масква--Мінск--Кіеў роля Расіі, вядома, будзе вызначальнай і вырашальнай, бо Расія -- звышдзяржава. Таму, калі шукаць нейкую форму суіснавання, нам абавязкова патрэбна ўлічваць, што Расія па сваёй істоце, па сваму прызначэнню і месцу ў гісторыі не можа быць роўнай Беларусі. Тым не менш для Расіі выгадна быць разам з Беларуссю, як і Беларусі -- разам з Расіяй. Галоўнае ў даным выпадку спалучыць узаемныя інтарэсы. У гэтым галоўная праблема. Я нават бачу, што па нейкіх напрамках было б мэтазго[illegible]ярнуцца на 10--15 гадоў назад[illegible]дома, умоўна, што дапамагло б не паўтарыць памылак нядаўняга мінулага. Сёння нам патрэбна дасканалая аналітычная распрацоўка ўзаемных мэтаў, выгод, бо нельга дапусціць, каб Беларусь страціла ўсё, што набыла за апошнія гады і што ёй даравана гістарычным выпадкам.

*-- Але ў сённяшні[illegible] мовах рэінтэграцыя можа быць вы[illegible]рыстана Масквой як казырная карта перад прэзідэнцкімі выбарамі.*

-- Так, я ведаю, што ў Крамлі разглядаўся варыянт адтэрміноўвання прэзідэнцкіх выбараў якраз на падставе міждзяржаўнай інтэграцыі. Але ў гэтым накірунку больш небяспечнай мне падаецца палітыка нашага ўрада, якая хутчэй нагадвае рэфлекс выжывання і захавання прэзідэнцкага месца. Не выключаю, што напрыканцы красавіка ці на пачатку мая будзе прызначаны рэферэндум па аб'яднанню Расіі і Беларусі, прычым адначасова ў абедзвюх дзяржавах. Зроблена гэта будзе з мэтай адцягнуць увагу грамадскасці ад эканамічных цяжкасцей, а таксама каб стварыць ілюзію сур'ёзнай дзяржаўнай палітыкі. Сапраўдная ж мэта Прэзідэнта -- пашырэнне сваіх паўнамоцтваў і знішчэнне палітычнай апазіцыі. Нельга блытаць натуральны працэс рэінтэграцыі з асабістымі амбіцыямі і цягай да агульнай улады. Можа атрымацца яшчэ адна палітычная фікцыя накшталт Белавежскіх пагадненняў, і я не разумею, чаму прэзідэнцкая каманда не ўяўляе, да якіх наступстваў можа прывесці такая палітыка. Застаецца толькі спадзявацца, што прэзідэнцкія выбары ў Маскве адбудуцца, тады і мы адчуем палёгку. Гэта будзе на карысць як Расіі, так і Беларусі, на карысць узважанага памяркоўнага стаўлення да працэсу рэінтэграцыі абодвух бакоў.

*-- Хоць мы ў значнай ступені і залежым ад нашай бліжэйшай суседкі, але было б добра нешта рабіць і самім.*

-- У нас вельмі нізкая палітычная культура. Беларуская палітыка на даным этапе -- гэта толькі праекцыя некаторых прэзідэнцкіх імправізацый. Нарэшце абраны парламент. Я лічыў, што павінна разгарнуцца моцнае супрацьстаянне: Прэзідэнт і яго каманда, з аднаго боку, і парламент, моцныя фракцыі, з другога. Аднак парламентарыі і лідэры фракцый выбралі для сябе палітыку чакання. Пакуль яе не назавеш згодніцкай, але пасля "здачы" Багданкевіча такая небяспека ўжо існуе на даным этапе. Усё будзе залежаць ад мажлівасці кіраўніцтва парламента і лідэраў фракцый распазнаць, што ёсць кампраміс і ўступчывасць, што -- страта прынцыповых пазіцый, вынікам якой можа быць пераўтварэнне парламента ў тэатр марыянетак.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**

*ПОГЛЯД ЗБОКУ*

# ШТО ДУМАЮЦЬ ЯПОНЦЫ ПРА БЕЛАРУСЬ?

**Такафумі Саіто нарадзіўся і вырас у Сапара ў сям'і паліцэйскага і хатняй гаспадыні. Вельмі любіць вандраваць. За свае 23 гады пабываў у Пекіне, Маскве, Кіеве, Варшаве, Пхеньяне. Тры гады таму наведаў Мінск. Горад спадабаўся цішынёй, адкрытым добразычлівым характарам. У 1995 годзе паступіў у БДУ на філалагічны факультэт. Вывучае беларускую мову.**

"Каб вывучыць гісторыю народа, -- гаворыць Саіто-сан, -- трэба ведаць яго мову. Дарэчы, вельмі дзіўна, што амаль паўгода я жыву на Беларусі, а нацыянальную вашу мову на бытавым узроўні амаль не чуў. Калі няма сваёй мовы, ці мала яна гучыць, людзі ў свеце думаюць, што няма і культуры народа".

-- Саіто-сан, вы шмат дзе пабывалі, а чаму менавіта Мінск выбралі?

-- Тут гучыць шум лістоты, а не сінтэзаваны шум прыбою. У Мінску шмат захавалася мясцін, да якіх не дакрануўся мозг чалавека. Каб зняць стрэс, не абавязкова слухаць спакойную музыку (як у нас у Японіі), а проста можна пайсці і пагуляць у парк, пахадзіць па вуліцах. Апранутыя ў бетон і шкло сучасныя гарады свету падобныя адзін да аднаго. Не гучыць у іх чалавек. Ёсць натоўп, які ахоплены адной думкай і запраграмаваны на пэўнае дзеянне. У Мінску ёсць мясціны, да якіх можа прытуліцца лірык. Душа, як сто год таму назад, цягнецца да прыроды. Менавіта ў прыродзе яе нармальнае існаванне. Тут можна напісаць цудоўную кнігу. Можа гэта адчуваюць толькі тыя, хто прыехаў сюды ўпершыню?

-- Ці ведаюць японцы пра Беларусь?

-- На жаль, нас можна зацікавіць толькі эканамічнай інфармацыяй. Хоць мы, як дзеці, цягнемся да ўсяго новага, фатаграфуемся на фоне славутых мясцін і хвалімся прыкладна так: "Я тут быў, тут выдатна". Адны думаюць, што Беларусь -- гэта губерня Расіі, дарэчы, вы самі даяце падставы нашым турыстам, калі размаўляеце з імі на рускай мове. Іншыя лічаць вас часткай Польшчы. Калі вучыўся дома, я ў арыгінале чытаў Янку Купалу, Якуба Коласа, М. Багдановіча. Чуў пра Караткевіча, М. Танка. Іх кнігі можна знайсці ў нас, набыць. А вось беларускага кіно амаль што не ведаюць. Мала знаёмы японцы і з сучаснай навуковай думкай Беларусі. На жаль, вы таксама не шмат ведаеце пра нас. Штосьці агульнае, трагічнае ёсць у нашых народаў. У вас -- Чарнобыль, у нас -- Нагасакі.

-- Саіто-сан, а што вы можаце сказаць пра характар беларусаў?

-- Калі ехаў на вучобу, вельмі хваляваўся, ці зразумеюць мяне тут. Сучасны свет вельмі рацыянальны. Выкладчыкі, прафесары працуюць столькі, колькі ім плацяць. У Мінску са мной займаюцца, не лічачы часу. Адчуваецца такая добрая даўніна, інтэлігентнасць. Тут на першым месцы -- выхаваць асобу, а не проста дыпламаванага спецыяліста. Хочацца адзначыць Анжэлу Лаўранёву, яна шмат са мной займаецца. Для японцаў вельмі цяжка засвоіць беларускую фанетыку, надта ж цяжка вымаўляць тыя гукі, якіх у нас няма.

Беларусы вельмі спакойныя, разважлівыя людзі. Менавіта так склалася гісторыя, якая выкрышталізавала самыя патрэбныя ў наш час рысы характару: цярпімасць адзін да аднаго, жаночую дабрыню, уменне слухаць. Такому народу хочацца даверыцца, расказаць пра сябе. Цывілізацыя, жорсткі прагматызм свету і дабрыня вашага народа -- вось што павінна цікавіць свет. Адчуваецца ў беларусаў і агульнаславянская кроў, менавіта схільнасць душ да крайнасцей. Асабліва гэта прыметна ў палітыцы. Японцы больш умеркаваныя. Мы даўно ўжо вызначыліся, вы яшчэ вызначаецеся па самых галоўных пытаннях. Кожны народ праходзіў шлях станаўлення. Беларусы вельмі працавіты народ, але, па маіх назіраннях, у вас не хапае японскай уседлівасці. Не сканцэнтраваны на чымсьці адным. Але і ўклад жыцця ў беларусаў іншы.

-- Калі мала гучыць нацыянальнае слова, што можа згуртаваць народ у адзінае?

-- Гістарычная памяць. На маю думку, вы яе захавалі, прынамсі, стараецеся захаваць.

Саіто-сан вельмі цікавы субяседнік, інтэлігент. Стараецца знайсці патрэбныя словы, а не проста выказаць думку.

Як важна кожнаму народу паглядзець на сябе збоку.

**Яўген КРЫЦКІ.**

# "БЕЛАРУСЬ, ПРАЦЯГНІ РУКІ ДРУЖБЫ..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

З польскага боку ў святкаванні ўдзельнічалі прэм'ер-міністр Рэспублікі Польшча Уладзімір Цімашэвіч, віцэ-маршалак сейма Аляксандр Малахоўскі, кіраўнікі Міністэрстваў адукацыі, культуры і мастацтва, ваяводскія і гарадскія ўлады. Былі, як і з беларускага боку, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

Святкаванне пачалося ўрачыстым пленумам галоўнага праўлення БГКТ з удзелам гасцей. Каб чытачы маглі акунуцца ў святочную атмасферу, паспрабую ўзнавіць ход падзей.

Адкрыў пленум і вёў яго старшыня праўлення БГКТ Яна Сычэўскі. Напачатку ён вітаў усіх "як людзей, зацікаўленых развіццём беларускай культуры, беларускай асветы, беларускага этнасу на зямлі беластоцкай", прадставіў прысутных і даў слова архіепіскапу Беластоцкаму і Гданьскаму Саве. Уладыка, у прыватнасці, абвясціў вечную памяць усім, "хто стварыў таварыства, перадольваў усялякія цяжкасці ў складаныя перыяды" і не дажыў да гэтых дзён. А ўсім, хто дачакаўся юбілею, прамоўца пажадаў, каб добры Бог дапамагаў ім у працы -- на дабро і гонар беларускай культуры.

Віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч ад імя Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, вышэйшых органаў улады краіны і народа Беларусі сардэчна вітаў усіх прысутных. Адзначыўшы, што дзяржаўная палітыка Беларусі ў адносінах да беларускага замежжа грунтуецца на спалучэнні дзяржаўнага і грамадскага пачаткаў, Уладзімір Русакевіч спыніўся на канкрэтных пытаннях развіцця сувязей Беларусі з землякамі ў Польшчы. Гэта і канкрэтная дапамога ў пабудове Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, і штогадовы прыём выпускнікоў ліцэяў з Польшчы на вучобу ў ВНУ Беларусі, і садзейнічанне самадзейным мастацкім калектывам у арганізацыйнай і творчай рабоце. Уладзімір Русакевіч выказаў спадзяванне, што з паляпшэннем эканамічнага становішча ў Беларусі дапамога беларусам у Польшчы будзе больш значнай.





Уладзімір Русакевіч зачытаў Указ Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб узнагароджанні старшыні галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Рэспубліцы Польшча Яна Сычэўскага медалём Францішка Скарыны "за значны ўклад ва ўмацаванне сяброўскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, актыўную прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа". Многім актывістам БГКТ былі ўручаны ўзнагароды, падарункі і сувеніры, прызы ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці.

Вечарам святкаванне перамясцілася ў вялікую залу спартыўнага комплексу "Влукняж". Атмасфера -- цёплая, узнёслая і вельмі дэмакратычная. Зала перапоўнена, прысутныя (а іх было некалькі тысяч) горача віталі прэм'ер-міністра Польшчы Уладзіміра Цімашэвіча і яго жонку, віцэ-маршалка сейма Аляксандра Малахоўскага, кіраўніка і членаў беларускай афіцыйнай дэлегацыі, іншых гасцей свята.

Двойчы выходзіў на сцэну прэм'ер-міністр Польшчы. Ён абвясціў ві[illegible]зальнае прывітанне ад прэзідэнта краіны і ўручыў ад яго імя ўзнагароды некаторым актывістам БГКТ. Віншавальны адрас ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зачытаў віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч.

А потым быў гала-канцэрт лаўрэатаў III агульнапольскага фестывалю "Беларуская песня-96". Ён працягваўся некалькі гадзін. Некалькі гадзін сапраўднага свята беларускага песеннага мастацтва. Што гэта было за свята! Выступалі самадзейныя артысты: "Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, "Пронар" з Нарвы, "Арэшкі" з Арэшкава і многія іншыя. Слухачы былі зачараваны добрымі галасамі і песнямі. Старэйшым больш падабаліся песні народныя, маладзейшым імпанавала сучасная эстрада. Асабліва цёпла сустракалі "зорак" тутэйшых. І вось дзіва! Простыя словы пра тое, як на аўтамабілях гарадскія едуць у вёску да бацькоў па сала, гэтыя простыя словы, пакладзеныя на сучасныя рытмы, выклікалі ажыятаж, моладзь наладжвала імправізаваныя танцы ля сцэны, аўдыторыя падхоплівала словы, цэлыя шэрагі гледачоў раскалыхваліся ў такт...

А калі выступаў гурт беларускай народнай песні "Маланка" з Бельска-Падляскага, я падумаў: "Нялёгка будзе нашым "Крупіцкім музыкам". І сапраўды, напачатку аўдыторыя сустрэла ансамбль даволі стрымана. Але з кожным новым нумарам рэйтынг выхаванцаў Уладзіміра Грома ўзнімаўся, і пасля канцэрта зала клуба "Влукняж" цёпла развітвалася з артыстамі.

А на фінал усе ўдзельнікі свята -- і артысты, і слухачы -- разам спявалі беларускую народную песню. Уладзімір Цімашэвіч і яго жонка, Уладзімір Русакевіч і члены беларускай дэлегацыі стаялі ў акружэнні людзей і спявалі. Гэта быў цудоўны эмацыянальны момант! Магчыма, кульмінацыйны момант той арганізаванай дзейнасці беларусаў Беласточчыны, што з'яўляўся і з'яўляецца адной з важнейшых умоў захавання традыцый, культуры і роднай мовы беларусаў на гэтай зямлі.

Цікавае назіранне, якім не магу не падзяліцца. Старшыня галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі ў сваім выступленні да ўсіх прысутных звяртаўся па-беларуску. Праўда, Уладзімір Цімашэвіч -- з беларусаў, бацька яго з-пад Ваўкавыска. І тым не менш... Гэта быў урок і для нас, урок нацыянальнай самасвядомасці.

Вось на гэтай ноце, бадай, і хацелася б закончыць нататкі аб святце ў Беластоку. Але ж у жыцці ёсць не толькі святы. І не выпадкова ў сваім выступленні на пленуме сустаршыня галоўнага праўлення БГКТ прафесар Варшаўскага універсітэта, паэт Алесь Баршчэўскі, адзначаючы заслугі і дасягненні ў дзейнасці таварыства, з горыччу гаварыў і аб "радыкальным паражэнні". Значна паменела школ, дзе вывучаецца беларуская мова. Вёска, якая заўсёды была апорай БГКТ, вымірае, многія з вёсак на Беласточчыне згінуць на працягу бліжэйшых 15--20 гадоў. І ў гэтых умовах, падкрэсліў А. Баршчэўскі, беларусам Беласточчыны патрэбна не толькі і не столькі матэрыяльная дапамога з боку Беларусі, колькі апора нацыянальная, нацыянальны прыклад. Гэты ж заклік гучыць і ў адным з вершаў паэта: "Беларусь, працягні рукі дружбы..."



Хочацца спадзявацца (а сустрэчы на беластоцкай зямлі настройваюць на такі лад), што, якім бы трагічным ні быў шлях -- народ наш ацалее, выжыве. Але многае будзе залежаць (і тут нельга не пагадзіцца з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам) ад таго, "ці загаворыць у нас пачуццё годнасці і сораму". І ў сувязі з гэтым я задаваў сабе пытанне: "Ці ўсё магчымае зрабіла таварыства "Радзіма" для захавання беларушчыны на той жа Беласточчыне?" Здавалася б, многае з таго, пра што гаварыў на ўрачыстым пленуме віцэ-прэм'ер Беларусі У. Русакевіч, зроблена таварыствам "Радзіма": матэрыяльна-фінансавая дапамога Музею і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыём і запрашэнне выпускнікоў ліцэяў на вучобу, арганізацыя курсаў для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, адпраўка мастацкай літаратуры, падручнікаў, даведнікаў, дапамога ў выданні "Беларускага календара", нарэшце, рассылка "Голасу Радзімы" па культурных асяродках. А разам з тым у рабочых гутарках з кіраўнікамі БГКТ, са старшынёй Грамадскага камітэта па пабудове музея ў Гайнаўцы Кастусём Майсенем высвятлялася, што ёсць яшчэ магчымасці пашырэння нашых кантактаў у кантэксце перспектыў далейшага супрацоўніцтва дзвюх суверэнных дзяржаў -- Беларусі і Польшчы.

Але гэта ўжо нашы будзённыя клопаты, карпатлівае назапашванне матэрыялу для будучых святаў.



**НА ЗДЫМКАХ: памятны падарунак ад Беларусі ўручае таварыству Уладзімір РУСАКЕВІЧ; Уладзімір ЦІМАШЭВІЧ узнагароджвае актывістаў БГКТ; звыш трох тысяч гледачоў сабралася на гала-канцэрт у зале "Влукняж"; спявае "Маланка".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

---

*МАЯ ДУМКА*

## ЯК БУДЗЕ ПАЧУВАЦЦА БЕЛАРУС ПАД ДВУХГАЛОВЫМ АРЛОМ?

Як сведчыць ваша газета, якую я, дарэчы, атрымліваю, пазіцыя рэдакцыі і аўтараў матэрыялаў, што друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Я, як і ўсе простыя людзі, давяраю друкаванаму слову. І зыходзячы з гэтага, дазвольце выказаць наступнае.

Як вядома ўсім, Беларусь з'яўляецца своеасаблівым "слепком России". Пацвярджэннем гэтаму шмат фактаў, праўда, знешне яны не вельмі бачныя, але ў сваёй аснове гэта так.

Візіт новага міністра замежных спраў Расіі Прымакова сродкі масавай інфармацыі разглядаюць, як першы крок да аб'яднання з Расіяй на федэратыўных пачатках.

Толькі нам, грамадзянам Расіі, невядома, як будзе вырашацца пытанне "выравнивания денежной системы". Расійскі рубель у Беларусі раўняецца 2,5 беларускага рубля. Ці пойдуць расіяне на гэта? Мы самі не заўсёды атрымліваем зарплату...

Беларусь, паводле слоў Прэзідэнта Лукашэнкі, будуе "рыначны сацыялізм", і большасць маёмасці там пакуль з'яўляецца дзяржаўнай. У Расіі ж нават цэлыя галіны эканомікі ўжо апынуліся ў прыватных руках. Як заўважыў прэм'ер-міністр Чарнамырдзін нядаўна ў Амерыцы, працэс будаўніцтва рыначнай эканомікі будзе працягвацца.

Я не эканаміст, тым больш -- не палітык і шмат чаго не разумею, напрыклад, як будзе праходзіць інтэграцыя Беларусі з Расіяй.

Мяне цікавіць іншае пытанне: што будзе з новай сімволікай Беларусі. Як вядома, Аляксандр Рыгоравіч (ды і не толькі ён) у старой сімволіцы бачыў нацыяналістычнае. Больш таго, як ён адзначаў, з гэтымі сімваламі змагаліся супраць савецкай улады, а гэта значыць -- з народам беларускія ўзброеныя нацыяналістычныя атрады.

Але, як вядома, у гады Айчыннай вайны існавала так званая "Руская вызваленчая армія", на чале якой стаяў былы савецкі генерал Уласаў. І калі шчыра гаварыць, а гэта гістарычная праўда, уласаўцы не ідуць ні ў якое параўнанне з беларускімі ўзброенымі атрадамі, якіх амаль і не ведаюць у Беларусі. І каб не выступленне па тэлебачанні Лукашэнкі і іншых, дык і беларусы не ведалі б, што гэта мела месца ў гісторыі іх дзяржавы.

Армія ж Уласава пакінула глыбокую баразну не толькі ў памяці рускага народа, але і іншых народаў Савецкага Саюза, што апынуліся пад акупацыяй. Мае аднавяскоўцы, якія добра памятаюць тыя суровыя гады, заўсёды падкрэсліваюць, што яны, гэта значыць уласаўцы, былі вельмі жорсткія ў адносінах нават да мірных жыхароў.

Савецкія военачальнікі, а таксама пісьменнікі, якія пісалі пра вайну, падкрэсліваюць, што ў баявых дзеяннях уласаўцы змагаліся "отчаянно". Але мала вядома пра тое, што армія Уласава ўсю сімволіку ўзяла ад Расійскай імперыі, і гэта сімволіка зараз з'яўляецца ў Расійскай Федэрацыі афіцыйнай, дзяржаўнай.

Рускі народ правільна лічыць, што ўласаўцы прыходзяць і адыходзяць, а народ неўміручы...

Мне цікава, як будуць адчуваць беларусы, калі з'явяцца на будынках расійскія сцягі, двухгаловы арол на пячатках і на шыльдах? Пад гэтымі сімваламі ўласаўцы жорстка здзекаваліся з беларусаў, ваявалі з партызанамі... і шмат пралілі крыві на нашай зямлі.

Ці выйдзе па Грыбаедаву: "Дым Отечества нам сладок и приятен"?

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск, Расія.

Абыходзім наша вогнішча, якое затухае. Бачым ямкі, што вырылі ў зямлі гранаты. Ад гэтага месца накіроўваемся на поўнач, а пасьля зноў рухаемся на захад -- усьлед за аблавай. Усё выразьней чуваць сабачы брэх і шум, што нарабілі людзі, якія крочаць наперадзе нас. Чуем, як яны аддаляюцца на поўдзень, як перайшлі тракт. У тую хвіліну мы падыходзім да ўскраіны лесу і тут затрымліваемся. Зноў бачым перад сабой поле... А да зьмярканьня яшчэ 2 гадзіны. Другі раз ужо не ідзём вакол лесам, бо ведаем, што, убачыўшы наш манёўр, тыя зробяць засаду або накіруюць аблаву назад, а мяркуючы па папярэдніх стрэлах з карабінаў і зробленага шуму, маюць значныя сілы. Затрымліваемся ў хмызьняку на беразе лесу і чакаем. Падрыхтавалі гранаты і рэвальверы... Час цягнецца бясконца доўга... Да вечара далёка...

Праз гадзіну аблава абышла вакол па лесе і зноў пачала набліжацца да нас. Праз кожную пару хвілін брэша сабака.

-- Я гэтага брахуна прыбяру! -- са злосьцю кажа Грабар. -- Вы пачакайце тут.

Ён засоўвае рэвальверы ў кішэні і вымае забесьпячальнікі з 2-х гранат. Пасьля ідзе лесам насустрач людзям, якія набліжаюцца да нас.

Хвілін пятнаццаць пануе цішыня. Аблава ўсё бліжэй. Раптоўна адбываецца выбух гранаты, і рэха ляціць далёка па лесе... Другі выбух... Сабака замоўк... Поўная цішыня... Пасьля пачынаюць грымець карабіны. Праз пару хвілін падыходзіць да нас Грабар.

-- Патрапіў у брахуна? -- запытаў яго Шчур.

-- Ня ведаю. Але яны, напэўна, затрымаюцца.

Да зьмярканьня яшчэ больш гадзіны. Выходзім на поле. Нельга чакаць на месцы, каб нас акружылі. Хутка рухаемся проста да лесу, які чарнее ў 4-х вярстах ад нас. Калі перамералі трэцюю частку той дарогі, ззаду прагучалі стрэлы. Я азірнуўся. Полем беглі за намі салдаты з карабінамі ў руках і, час ад часу спыняючыся, стралялі ў нас. Мы пакрочылі яшчэ хутчэй.

На сярэдзіне нашай дарогі ляжала вёска. Хочучы скараціць сабе шлях, каб мець аднолькавыя шансы з нашымі перасьледнікамі, якія, безумоўна, пойдуць праз вёску, мы ступілі на вузкую, патанаючую ў балоце вуліцу. Зброю не хавалі. Трымалі ў руках гранаты і рэвальверы.

Пасярод вёскі стаяў натоўп людзей. Нейкі сход. Натоўп акружыў воз, на якім стаяў мужчына і, жвава махаючы рукамі, штосьці ім казаў. Нечакана нехта з натоўпу заўважыў нас. Нешта крыкнуў. Усе погляды скіраваліся ў наш бок. Не зьвяртаючы на гэта ўвагі, хутка крочым наперад. У той момант мужчына, які гаварыў людзям, што сабраліся на вуліцы, саскочыў з воза і пабег да бліжэйшага падворка. Шчур голасна крыкнуў:

-- Трымай!!!

Грабар некалькі разоў сьвіснуў у пальцы.

Натоўп пачаў зьмяншацца. Людзі разьбягаліся ва ўсе бакі. Ідучы далей пустой вуліцай, бачым толькі дзе-нідзе людзей, якія пакрыёма сачылі з вокан і з-за вуглоў хат.

Выйшлі на другі канец вёскі і пакрочылі нацянькі праз поле. Зводдаль бесьперапынна несьліся стрэлы перасьледуючых нас салдат, якія хацелі такім чынам папярэдзіць насельніцтва вёскі, каб нас лавілі, але нарабілі яшчэ большага спалоху і дабіліся толькі таго, што сяляне пахаваліся хто дзе мог.

Нарэшце мы дабраліся да лесу, які ўсьцілаўся вячэрнімі ценямі.

-- Можам пачакаць іх тут, -- сказаў Грабар, сядаючы на спілаваным камлі бярозы. -- Бачу, што ім пільна трэба ў пекла...

Працяг.
Пачатак у №№ 29—9.

Зараз ужо ніхто з нас ня можа свабодна паказацца ў мястэчку. У большасьці выпадкаў толькі вечарамі ідзём туды разам. Шчур пракрадаецца да хат сваіх інфарматараў і зьбірае зьвесткі аб працы паўстанцаў і пра розныя выпадкі на граніцы, пагранічча і ў мястэчку. Пасьля разам ідзём у крамы і купляем патрэбныя нам рэчы. Пару разоў нас пазнавалі, але ніхто не адважыўся заступіць нам дарогу або ў той жа момант данесьці паліцыі. А пазьней мы выбіраліся зь мястэчка і ішлі да бровара ў Паморшчыну або ў навакольныя лясы. Часьцей у лясы -- там было нам больш бясьпечна.




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Зноў згубілі некалькі дзён на зьбіраньне ў адно месца і перанос да пасрэдніка сабранага і пахаванага па розных месцах тавару. Зарабілі шмат. Грошы ўжо ня цешаць мяне, такая розьніца, колькі я маю, і не магу купляць усё, што мне падабаецца. Большую частку, пераважна золата і дробныя банкноты, складваю ў наш банк -- дупло старой ліпы.

Учора Шчур адзін пайшоў у мястэчка. Чакалі яго на могілках. Прынёс некалькі пляшак сьпірытусу, шмат ежы і сказаў мне:

-- Для цябе ёсьць навіна.

-- Якая?

-- Раскажу на мяліне.

Ішоў дождж, таму, хочучы добра адпачыць, мы пайшлі да бровара.

-- Што за навіна? -- запытаў я ў Шчура.

-- Ня ведаю, ці казаць табе...

-- Ну, кажы!

-- Добра. Толькі ты гэта не бяры да галавы... Заўтра, у нядзелю, будуць Фэліны заручыны.

-- Ня можа быць!.. А з кім?..

-- Адгадай.

-- Не магу дадумацца.

Шчур крыва ўсьміхнуўся і павольна працадзіў:

-- З па-нам Аль-фрэ-дам А-лін-чу-ком...

У мяне заняло мову. Шчур, заўважыўшы, якое гэта зрабіла ўражаньне, прамовіў:

-- Мяне, браце, гэта таксама ўразіла. Доўга думаў над гэтым... Вельмі доўга... Так сабе разважаў: ці гэта можа быць, каб такі жлоб узяў сястру Сашкі і карыстаўся з пасагу, які Сашка коштам свайго жыцьця сабраў для яе? Так уласна і думаў. І адказаў сабе: секану яго!.. А пасьля я лепей раздумаўся і адказаў сабе інакш: ня трэба і нельга!.. І ты гэта зразумей... А ведаеш чаму?

-- Ну?

Шчур паправіў сьвечку, якая гарэла ў бутэльцы, а потым падняў угару два пальцы і прыплюшчыў вочы. На яго твары зьявілася крывая ўсьмешка.

-- А таму, што яны адзін другога вартыя!.. Разумееш?.. Калі яна згаджаецца выйсьці за яго замуж, хоць ведае, што гэта за ананас, дык... варта яго... А ён яе варты!.. І сабака ім морду лізаў. А ты плюнь і галаву сабе не заварочвай!.. Сястра Сашкі не павінна была так зрабіць, а калі робіць, дык яна звычайная... цёрка... Вось як... Можа, так і лепш...

Я доўга маўчаў. У маёй галаве пралятала шмат думак. Пасьля моцна пацісьнуў даланю Шчура і прамовіў:

-- Маеш рацыю!

Шчур кіўнуў мне галавой і весела бліснуў вачыма. А крыху пазьней сказаў:

-- Ведаеш, што прыдумаў?

Я з запытаньнем паглядзеў яму ў вочы.

-- Пойдзем заўтра ўтрох на заручыны Фэлі... Што?.. Не чакаюць такіх гасьцей. Уся сьмятанка будзе. А тут мы ўвальваемся і складаем павіншаваньні і зычэньні вясёлага сьвята паненцы і халую!.. Што вы на гэта?

-- Давай! -- весела сказаў Грабар. -- Першая катэгорыя!

-- Давай! -- крыкнуў і я.

Мяне ахапіла злосьць. Быў здольны на любую, самую жахлівую авантуру. Пасьля, калі сябры паснулі, я доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма.

Назаўтра позна ўвечары мы накіраваліся ў мястэчка. Да хаты Вэблінаў быў зручны падступ з усіх бакоў. Пералезьлі праз некалькі парканаў і апынуліся ў агародзе. Адсюль можна было выгадна назіраць за ўсім рухам у памяшканьні і на падворку.

Пачаў крапаць дождж, і дзядзінец апусьцеў. Праз адчыненыя, ярка асьветленыя вокны хаты даляталі гукі грамафона. Я падкраўся пад вакно і зазірнуў усярэдзіну. Убачыў больш дзесятка людзей, якія сядзелі за сталом, застаўленым вячэрай. Фэля сядзела каля Альфрэда, які штосьці казаў ёй, салодка пазіраючы дзяўчыне ў вочы. Увесь час пасьміхаўся, мацаў пальцамі вусікі, але твар дзяўчыны быў спакойны і суровы.

Акрамя іх у хаце ўбачыў усіх братоў Алінчукоў, Караля і Зыгмунда Фабіньскіх, Аліганта, Салаўя, які трымаў на каленях гітару. Акрамя таго, прысутнічала некалькі незнаёмых старэйшых і маладзейшых за мяне мужчын -- напэўна, сваякоў Алінчукоў і Фэлі. З дзяўчат былі: Бэлка, якая прымірылася з Альфрэдам, Андзя Салдат, кузынка Фэлі, Зося, і яшчэ пару жанчын, знаёмых мне толькі з выгляду.

На стале стаяла шмат пустых пляшак. Таварыства ўжо было ўлюляна, але захоўвалася паважна. Да мяне падышлі Шчур і Грабар. Пачалі разам са мной глядзець у вакно. Грамафон замоўк. Заўважыў, што Лютка Зубік кажа штосьці Салаўю. Напэўна, просіць яго, каб зайграў альбо засьпяваў. Да яе далучыліся іншыя дзяўчаты. Прыкмеціў, што Салавей пачырванеў. Уладкаваўся зручней у крэсьле, узяў некалькі акордаў на гітары і пачаў сьпяваць. Але сьпяваў не нашу перамытніцкую песьню, якую склала граніца, а іншую... смутную, жаласьлівую:

**Стэп, бязьмежны стэ-эп!..**
**Сэрца цісьне жа-а-ль!..**
**Як высланца енк,**
**Песьня ляціць удаль.**
**Песьня ля-я-ці-ць уда-ль!..**

Не магу адарвацца ад вакна. Песьня ўзрушае мяне. Завалодвае ўсёй маёй істотай. Убіраю яе душой, сэрцам, нервамі... Тады Шчур кладзе мне на плячо руку.

-- Пайшлі!

Іду разам зь імі ў сенцы. Песьня скончылася. У пакоі з хвіліну пануе цішыня. У гэты момант Шчур шырока адчыняе дзьверы і ўваходзіць у хату. Крочым за ім. Усе глядзяць на нас зьдзіўленымі вачыма. Заўважаю рух сярод Алінчукоў. Альфрэд засунуў руку ў кішэню. У тую ж хвіліну Шчур бліснуў двума парабеламі, накіроўваючы іх на прысутных у памяшканьні людзей. Мы таксама вынялі зброю. Шчур вымавіў, зьвяртаючыся да ўсіх:

-- Прыйшлі сюды ад брата Фэлі, Сашкі. Сашка быў маім калегам, а памёр у яго на руках! -- рухам галавы паказаў на мяне. -- Таму, калі б жыў, запрасіў бы нас на заручыны сястры хутчэй, чым шмат каго з вас. А кавалер, -- Шчур зьвярнуўся да Альфрэда, -- няхай супакоіцца і схавае ручкі ў парадку, бо замест заручын зробім пару пахаваньняў.

Шчур садзіцца за стол насупраць Альфрэда, паміж Люткай Зубік і Зосяй, якія адсоўваюцца ў бакі. Усе маўчаць. Тут загучаў голас Фэлі, якая глядзіць мне ў вочы, кажа:

-- А гэта няпрыстойна, пан Уладзіслаў, са зброяй у госьці прыйсьці?..

-- Зброю ў руках не трымаў, -- панура адказаў ёй. -- Выняў толькі, калі Альфрэд палез па яе, бо ведаю, што нават з-за плота страляць яму не ўпершыню!

-- Гэта абраза мяне! -- кажа Фэля, і на яе лбе паказалася доўгая папярэчная маршчынка.

-- А!... гэта панна Фэліцыя такая абразьлівая?.. Ня ведаў пра тое. Думаў інакш, бо бачу, што той, хто летась называў панну к..., пра што Фэлечка добра ведае, зараз яе нарачоны.

-- А што, цябе гэта датычыць? -- праз зубы працадзіў Альфрэд.

Тут улез Шчур:

-- Вельмі яго гэта датычыць! Вельмі, бо ён твой кум!

-- Бурага ката на хросьце трымаў! -- адгукнуўся Грабар.

-- Не, -- цягнуў далей Шчур, -- таму што ён морду тваю падкуў і ножку прадзюравіў!

-- А вас хто сюды прасіў? -- вымавіла Фэля.

Тады сказаў я:

-- Пані мяне калісьці запрашала. Прыйшоў нападлітку... пасьмяялася зь мяне пані. Зараз прыходжу цьвярозы, зь сябрамі -- зноў не падабаецца.

-- З бандытамі, -- кінуў Альфрэд.

-- Не з такімі жлабамі, як ты, што з-за плота ў хлопцаў страляюць, налева ў паліцыю даносяць, з падпольнікамі ў Саветах сябруюць і хлопцаў засыпаюць! -- кажу яму я.

-- Вы самі нікому не даяце працаваць! -- вымавіў Альфрэд.

-- Не даем такім жлабам, як ты! І не дамо! Скончыцца для вас залатое дно! Вам дровы секчы, ваду насіць і пялёнкі мыць, а не фартаваць! -- кажа Шчур. -- Праз цябе загінуў Кручок, праз цябе загінуў Цьвік! Ты насылаў на нас паўстанцаў. Ты наводзіў чэкістаў. Дык памятай: для вас граніца замкнута, і калі ад сёньняшняга дня злаўлю каторага, -- Шчур па чарзе ткнуў пальцам у грудзі кожнага праз стол, -- за граніцай, то секану ў лоб! Бо запаскуджваеце граніцу! А калі злаўлю кагосьці з паўстанцаў, а я злаўлю, дык таксама косткі пахрабушчу. Скажыце ім. А зараз досыць размоў. Мы прыйшлі сюды выпіць і зычыць Фэлі шчасьця. А свае інтарэсы аформім дзе-небудзь у іншым месцы!

Шчур узяў са стала вялікі графін і наліў у тры шклянкі гарэлкі: для сябе, для мяне і для Грабара.

-- Ну, хлопцы, шахнем! -- вымавіў ён весела. -- Вып'ем за здароўе Фэліцыі -- сястры караля граніцы Сашкі Вэбліна!

Выпілі адным духам гарэлку.

-- А зараз, хлопцы, шклянкі аб падлогу: каб ніхто ня выпіў імі за здароўе Фэліцыі Алінчуковай, жонкі Альфрэда!

Твары прысутных у хаце людзей выяўлялі шмат розных пачуцьцяў. Адны стрымліваліся, каб ня выбухнуць сьмехам, другія затойвалі ў сабе бясьсільную злосьць. Некаторыя былі перапалоханыя, хоць з нашых паводзін бачылі, што мы ня маем намеру зрабіць прысутным нічога кепскага. На тварах Салаўя і Аліганта я прыкмеціў сімпатыю нам. А Шчур падышоў да Салаўя, узяў у яго з рук гітару і сказаў:

-- Ня раз сьпяваў Сашку. Засьпяваю апошні раз яго сястры!

Крануў струны гітары і пачаў сьпяваць. Песьня была вельмі фрывольная і сьмешная. У ёй з гумарам апявалася нядоля і рызыка прафесіі перамытніка. Заўважыў на некаторых тварах, асабліва ў дзяўчат, вясёлыя ўсьмешкі. Шчур закончыў песьню і сказаў:

-- А зараз, мая дарагая Фэля...

-- Не твая і не дарагая! -- гаркнуў Альфрэд праз стол.

Шчур прыплюшчыў вочы і вымавіў:

-- Што не мая, дык твая рацыя, але што дарагая, дык мая рацыя, бо мае пасаг, на які ты ласы больш, чым на Фэлю! -- паказваючы пальцам на Альфрэда, жартаўліва сказаў Шчур.

Фэля падскочыла зь месца.

-- Ці панове доўга мяркуюць заставацца тут? -- сказала высокім непрыемным голасам. -- Калі так, я адсюль пайду!

-- Не, -- адказаў шчур, -- зараз ідзем... А на заканчэньне хачу падарыць панне Фэліцыі шлюбны прэзент, бо не спадзяюся, каб нас запрасіла на вясельле... І не прыйшлі б, -- па хвіліне маўчаньня сказаў ён далей. -- Дык вось, золата пані ня трэба -- бо Сашка досыць зарабіў яго для... Альфрэда, таму золата ня дам. Дам пані іншы падарунак, які і Сашка з ахвотай прыняў бы.

Шчур перахіліўся праз стол і паклаў на абрус перад Фэляй гранату. Грабар зрабіў тое ж. Тады я вымавіў:

-- А я падарую пані нешта іншае: напамін, які мне некалі паслаў Альфрэд. Я не пабег зь ім у паліцыю, толькі паказаў Сашку, а зараз даю пані.

Паклаў каля гранат кулю ад браўнінга, якую, пасьля нападу на мяне восеньню 1922 года, выняў са сьцяны хаты Трафідаў.

Усе маўчалі. Фэля зьдзіўленымі вачыма паглядала на гранаты і кулю, якія ляжалі перад ёй. Некаторыя госьці разам з крэсламі адсоўваліся ад стала. А Шчур сказаў:

-- Ну, хлопцы, гайда ў дарогу! Няхай яны тут смуродзяць і дзяцей плодзяць, а нас чакае чорная ноч, чорная сьцежка, зялёны лес і зялёная граніца!

Мы выйшлі з памяшканьня. Затрымаўшыся ў сенцах, пачуў голас Альфрэда:

-- Трэба ў паліцыю!.. Што гэта такое?!. Гэта ж гранда!.. Ёсць сьведкі!..

У наступную хвіліну разьнёсься спакойны, нізкі, зь металічнымі ноткамі голас Фэлі:

-- Садзіся ж, ну, ты... ты... -- ня скончыла.

Мы выйшлі на вуліцу і нырнулі ў цемру лістападаўскай ночы. Я крочыў і ўсё думаў: "Які сказ рваўся на вусны Фэлі, калі казала Альфрэду?" Шмат даў бы за тое, каб даведацца! Шмат даў бы!..

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ІШОЎ СВАІМ ШЛЯХАМ

Нават не ведаючы прафесіі аўтара кнігі "Гістарычныя звесткі пра выдатныя мясціны на Беларусі з дадаткам іншых звестак, якія да яе адносяцца", выпушчанай у 1855 годзе ў Пецярбургу, можна смела сказаць, што ён звязаў свой лёс з арміяй. Зрабіць гэта не так і складана, дастаткова ўважліва пазнаёміцца з невялікай, літаральна ў некалькі радкоў прадмовай. Вось тэкст яе: "Выдаючы кнігу, я ставіў дваякую мэту: 1. пазнаёміць чытачоў з Беларуссю; 2. даць матэрыял таму, хто возьме на сябе працу зрабіць аб ёй больш падробнае апісанне.

Я прамаўчаў аб некаторых месцах і прадметах, паколькі не меў дастатковых звестак да іх апісання, ці яны нічым не адметныя па гісторыі".

Дакладна, вычарпальна, але ў нейкай ступені і празмерна афіцыйна. Быццам звычайны вайсковы рапарт.

Што ж, у гэтым нічога дзіўнага. Міхаіл Без-Карніловіч, а гэта ім напісаны "Гістарычныя звесткі...", і на самай справе быў чалавекам ваенным, генерал-маёрам рускай арміі. Праўда, у студзені 1852 года яго звольнілі, як гаварылася ў загадзе, "па сямейных абставінах".

Як жа, у такім разе, Без-Карніловіч прыйшоў да ўсведамлення неабходнасці папрацаваць на карысць гістарычнай навукі? Адказ зноў жа трэба шукаць у яго біяграфіі. Нарадзіўся Міхаіл Восіпавіч 10 кастрычніка 1796 года. Пераважная большасць даследчыкаў схільная меркаваць (а так засведчана і ў розных аўтарытэтных даведніках, і ў энцыклапедыі "Гісторыя Беларусі"), што родам ён з Магілёўскай губерні. Праўда, часам можна прачытаць, што нарадзіўся ўсё ж на Украіне, з'яўляецца родным братам дзекабрыста А.Карніловіча.

З маленства Без-Карніловіч рыхтаваў сябе да ваеннай службы. У 1816 годзе скончыў кадэцкі корпус. З 1828 па 1829 год прымаў удзел у руска-турэцкай вайне, а ў 1831 -- 1847 гадах, паколькі з'яўляўся ваенным тапографам, кіраваў экспедыцыяй, якая праводзіла тапаграфічныя здымкі ў Мінскай, Наўгародскай, Віцебскай, Валынскай губернях і Беластоцкай акрузе. Аднак больш за ўсё часу Без-Карніловіч правёў менавіта на тэрыторыі Беларусі, даследуючы рэгіён Падзвіння і Падняпроўя. У прыватнасці, ім быў напісаны ваенна-стратэгічны агляд Віцебскай губерні, што пад назвай "Віцебская губерня" пабачыў свет у Пецярбургу ў 1852 годзе. Аўтар падыходзіў да гэтай часткі Беларусі з пункту гледжання ваеннага.

Тым не менш, як і кожны высокаадукаваны чалавек, Міхаіл Восіпавіч па меры магчымасці выходзіў за межы тых задач, што ставіліся перад ім ваенным камандаваннем. Робячы ваенна-стратэгічны агляд мясцовасці, праводзячы тапаграфічныя здымкі, ён усё больш цікавіўся мінулым Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Ён звяртаў увагу на старажытныя курганы і гарадзішчы, яго вабілі замчышчы, а калі спыняўся каля некалі магутнага вала, з цягам часу аселага, больш нізкага, чым калісь, багатая фантазія ўзнаўляла падзеі, што адбываліся тут некалькі стагоддзяў назад.

Экспедыцыя, як вядома, доўга не затрымлівалася на адным месцы, пастаянна знаходзілася ў дарозе, даводзілася пераязджаць з горада ў горад. Без-Карніловіч хутка знаходзіў з гаспадарамі, у якіх спыняўся, агульную мову. А калі з гаспадарамі наладжваўся адпаведны кантакт, пра многае распытваў, слухаў легенды і паданні, даведваўся пра адметнасць быту тамашняга люду. Нешта занатоўваў для сябе, штосьці трымаў у памяці. Калі ж пайшоў у адстаўку, з'явілася больш вольнага часу, то вырашыў прысвяціць яго навуцы.

Без-Карніловіч, як сказаў у свой час Г.Каханоўскі, "з ваенна-пратакольнай пунктуальнасцю апісаў усе больш-менш значныя населеныя пункты Беларусі, пад якой разумеў толькі Віцебскую, Магілёўскую і заходнія паветы Смаленскай губерняў". Хаця, калі разважыць, "пратакольная дакладнасць" у навуковай працы не такая і благая рэч, асабліва, калі справа тычыцца выверанасці ацэнак, канкрэтнасці вывадаў. Праўда, як будзе сказана ніжэй, Міхаіл Восіпавіч не заўсёды заставаўся гэткім маўклівым рэгістратарам таго, што адбывалася на тэрыторыі Беларусі ў розныя гістарычныя часы. Калі лічыў патрэбным, не абыходзіўся і без эмацыянальнай узнёсласці, а то і зусім паўставаў ці не лірыкам.

З'явілася кніга пра Беларусь і беларусаў. Яна, безумоўна, нясе на сабе адбітак свайго часу, але тым не менш лепшымі старонкамі не страціла значэння і па сённяшні дзень, а ў некаторых выпадках застаецца той адзінай крыніцай, да якой па-ранейшаму звяртаюцца даследчыкі. Ды і нават спрэчныя моманты ўспрымаеш належным чынам, таму што разумееш, што за імі не абавязкова памылкі аўтара, адчуваецца праяўленне пакутлівага шляху да ісціны, асабліва цяжкага ў гістарычнай наву[illegible]

Безумоўна, Бе[illegible]рніловіч не памыляўся, лічачы продкамі беларусаў не толькі крывічоў, а і радзімічаў, а таксама і іншыя плямёны, якія аказвалі на іх уплыў. Ён проста выказваў уласны пункт гледжання на праблему, і справа наступнікаў прымаць яго меркаванні ц[illegible]эчваць іх. Што тычыцца бол[illegible] канкрэтнай даўніны, той, якую ці не ўсе аднагалосна сёння называюць полацкай, дык тут Без-Карніловіч, бадай, прытрымліваўся цяперашніх ацэнак. Напрыклад, ён надаваў вялікае значэнне дзяржаўнасці старажытнага Полацка. Пісаў пра Полацк як цэнтр крывічоў, адзначаючы, што пазней ён стаў стольным і з ім звязана дзейнасць цэлай дынастыі князёў. Без-Карніловіч прыйшоў да высновы, што і знакаміты Віцень таксама паходзіць з гэтага роду.

У кнізе апісаны археалагічныя помнікі і помнікі старажытнага дойлідства. Але ў гэтым выпадку Без-Карніловіч, відаць, не мог абысціся і без прачытанай перад гэтым літаратуры, паколькі няма звестак, каб ён разам з памочнікамі займаўся раскопкамі. У асобных жа выпадках увогуле можна смела гаварыць пра Без-Карніловіча як першапраходцу. Менавіта дзякуючы яму, была прыўзнята заслона таямнічасці над гісторыяй горада Друцка (іншая назва Дручаск), які існаваў не адно стагоддзе, а потым бясследна знік. Ён жа вызначыў і дакладнае месцазнаходжанне Друцка, адшукаўшы яго гарадзішча. А што ў пошуках не памыліўся, пераканалі даследаванні сучасных археолагаў.

Першым, няхай і эскізна, Міхаіл Восіпавіч згадаў і гісторыю старажытнага Лукомля -- сталіцу аднайменнага ўдзельнага княства. Працытаваў пры гэтым упамінанне з "Павучання" Уладзіміра Манамаха. Згодна з гэтым дакументам Лукомль упершыню згадваецца пад 1078 годам, калі быў знішчаны кіеўскім князем. І яшчэ шмат пра якія населеныя пункты можна прачытаць у кнізе. Усё і не пералічыш -- Краснаполле, Чарэя, Чэрыкаў, Рагачоў, Талачын... Дзесяткі назваў. Часам Без-Карніловічу дастаткова некалькіх сказаў, каб апісаць тое ці іншае паселішча. Скажам, пра Прапойск (сённяшні Слаўгарад) ён піша так: "Пры нізоўі р. Проні, якая з правага боку ўпадае ў р. Сож. У старажытнасці ў мястэчку быў замак, акружаны лесам. Паміж Прапойскам і в. Лясным (сучасная вёска Лясная. -- **А.М.**) бачна мноства курганоў, што нагадваюць барацьбу са шведамі, гэта магілы забітых". Ці, напрыклад, вось як згадана пра сяло Горы: "Вядома сваімі ярмаркамі рагатай жывёлай і коньмі ў дзесятую пятніцу пасля светла-хрыстова ўваскрэшання". Як бачна, у гэтым сцвярджэнні адчуваецца звычайная стылістычная неахайнасць. Без-Карніловіч меў, канечне, на ўвазе, што на кірмашах гандлявалі каровамі і коньмі.

Але, як ужо гаварылася, Міхаіл Восіпавіч мог пісаць і эмацыянальна-ўзнёсла, што дае падставы меркаваць аб яго літаратурных задатках, якія, калі б аўтар раней узяўся за пяро, магчыма, маглі рэалізавацца больш поўна і ўсебакова. Падставы так сцвярджаць дае нататка пра Магілёў: "З самай глыбокай старажытнасці абодва берагі р. Дняпро, багатыя лясамі і шырокімі лугамі, упрыгожваліся жытлом пасяленцаў, заняткам якіх была звярыная і рыбная лоўля, а іх багаццем -- развядзенне буйной рагатай жывёлы. Летапісы не называюць года заснавання Магілёва, не згадваюць і таго, чаму ён так названы. Застаецца верыць паданню".

Паданні, легенды ў кнізе стаяць не асобна, а выкарыстоўваюцца ў тэксце толькі тады, калі аўтару неабходна згадаць паходжанне асобнага населенага пункта ці сказаць аб адметнасці якой-небудзь мясцовасці. Не абышлося без гэтага і ў расказе пра Полацк: "За ракой Палатою, у полі, знаходзіцца азерца Валавое: аб ім ёсць паданне, быццам у старажытныя часы яно знаходзілася ў самім горадзе і да ўвядзення хрысціянскай веры пры гэтым возеры стаялі капішчы Перуна і Бабы-Ягі". Зноскай падаецца наступнае тлумачэнне: "Беларускі народ па сённяшні дзень успамінае пра Бабу-Ягу, гаворачы:

**Баба-Яга, касцяная нага,**
**На ступе едзець,**
**таўкачом паганяець,**
**Мятлой сляды замятаець".**

Відавочна, калі б перад аўтарам стаялі іншыя задачы, гэтыя і ім падобныя паданні, легенды ён мог бы падаць куды больш разгорнута, і тым самым атрымаліся б цікавыя запісы фальклору. Але загадзя вызначаная кампазіцыя кнігі прымушала адмаўляцца ад падобнага жадання. Але не будзем забываць пра поўную назву яе. Гэта ж не толькі "Гістарычныя звесткі пра выдатныя месцы на Беларусі", а звесткі "з дадаткам іншых звестак, якія да яе адносяцца". А сярод гэтых "іншых звестак" можна сустрэць цікавыя згадкі пра побыт народаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі, і ў першую чаргу пра смелых беларусаў.

З асаблівай павагай Без-Карніловіч пісаў пра сялян, адзначаючы, што "беларускі селянін, калі ён сыты, апрануты і не абцяжараны работай, -- вясёлы, добры, разгаворлівы, працалюбівы". І адпачынку не цураецца: "У святочныя і выхадныя дні сяляне са сваімі жонкамі і дарослымі дочкамі, прыхарашыўшыся ў лепшую апратку, накіроўваюцца ў прыходскую царкву на абедню: адтуль адны вяртаюцца дахаты, другія, зайшоўшы ў карчму, застаюцца там да ночы".

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПОСПЕХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Я ведаю, што ў рэпертуары Міхаіла ёсць творы Рахманінава, Ліста, Паганіні. Яму аднолькава добра ўдаліся і беларускія народныя мелодыі, і цыганскія, і рамансы, і ўсё гэта выконвалася з вялікім натхненнем і самааддачай. Ігра юнага музыкі ўразіла тэхнічнай адточанасцю, вельмі прачулым выкананнем, нейкай асаблівай чысцінёй гучання інструмента.

Мішы пашчасціла нарадзіцца ў сям'і музыканта. Яго бацька -- Аляксандр Лявончык -- цымбаліст, вядомы не толькі ў Беларусі, але ў Канадзе і Злучаных Штатах Амерыкі. Яшчэ ў раннім дзяцінстве ён заўважыў у сына здольнасці да музыкі, хлопец меў абсалютны слых. Пазней у Рэспубліканскім ліцэі Мішы зноў пашанцавала, калі ён пачаў займацца ў класе дацэнта Таццяны Сергіенка, сапраўднага педагога, захопленага музыканта, чулага чалавека. З ёю і зараз звязана Мішына творчае жыццё, за што ён вельмі ўдзячны ёй, а таксама свайму бацьку, які падтрымлівае, дапамагае парадай, які заўсёды побач. Вось і на канцэрце быў вельмі прыгожы момант, калі на сцэне з'явіліся бацька і сын Лявончыкі.

Негледзячы на зусім юначы ўзрост (Мішы яшчэ не споўнілася і 17), гэта ўжо вядомы музыкант сярод юнакаў. Мяркуйце самі. У 11 гадоў ён упершыню становіцца лаўрэатам Нацыянальнага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча. У 13 гадоў -- другі раз лаўрэат таго ж конкурсу (у іншай узроставай падгрупе). У 14 гадоў -- ён лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Андрэева ў Цверы і міжнароднага конкурсу "Кубак Поўначы" ў Чарапаўцы. Міша -- стыпендыят міжнароднага фонду "Новыя імёны". У гэтым годзе быў удзельнікам святочнага Каляднага канцэрта, які праходзіў у зале Чайкоўскага ў Маскве. Міхаіл Лявончык выступаў і далёка за межамі краіны. Ён пабываў у Германіі, Японіі, Канадзе, Галандыі, Італіі, Даніі. Сёлета ў маі з камерным аркестрам ліцэя збіраецца ў паездку па Германіі, Галандыі, Англіі. Атрымаў запрашэнне на ўдзел у канцэртах на Алімпійскіх гульнях у Атланце.

Вось такі напружаны рытм жыцця ў гэтага юнака: вучоба, канцэрты, паездкі, сустрэчы з цікавымі, таленавітымі людзьмі, і як вынік -- поспех. Усё гэта дае надзею на шчаслівую будучыню. І дай Бог яму здароўя, сілы характару для здзяйснення ўсіх планаў і задум.

**Алена КАЗЛОВА.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

**Не год,**
**не два**
**Надзеі,**
**смутку,**
**болю...**
**Жыццё пражыць...**
**А што ж у тым жыцці!!**
**Абцасамі**
**павытапталі поле...**
**Ну як на ім**
**зарнятам узысці!!**
**Ды не,**
**не поле,**
**Мову зруйнавалі!**
**І не зярняты --**
**словы...**
**Так было...**
**Адны з іх**
**крумкачы парасклявалі,**
**Другія --**
**чорным пылам занясло...**
**Чым іх паліць!**
**Якой жывой вадою!**
**Каб прараслі,**
**каб дружна узышлі...**
**Каб не пустой**
**бядою-лебядою,**
**Хлябамі**
**каласіліся палі...**
**Па ўсёй зямлі...**
**Па ўсёй**
**маёй**
**зямлі...**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

*Дай, Божа, вясну-красну*
*Дай, Божа, вясну-красну*
*На цёплыя лета*
*На густыя жыта.*
*(З народнага).*

**Колькі ўжо гадоў вясну чакаем,**
**Колькі ўжо гадоў вясну гукаем!**
**Што ж да нас яна ўсё не прыходзіць!!**
**Што ж у нас за долечка такая!!**

**Ледзь вясна дыхнула адраджэння,**
**Дыхае ўжо сівер адрачэння;**
**Сталі адракацца ад святыняў.**
**Маці-Беларусі сэрца стыне.**

**Хутка так вярнуцца маем шанцы**
**Ў час,**
**калі нібы ў шалёным танцы**
**У зімы на балі, --**
**выбягалі**
**Зграяй янычар**
**хлапцы-паганцы,**
**Моталанцугамі гналі ўвішна***
**Моладзь беларускую, што выйшла**
**Ля ракі вясну-красну гукаці...**
**Дай, Божа, вясну Айчыне-Маці!**

* Аб гэтым выпадку, які меў месца ў сярэдзіне 80-х, гаварыў Васіль Быкаў на Першым з'ездзе беларусаў свету.

*ВЫЦІНАНКІ*



# ТУГА ПА БЕССМЯРОТНАСЦІ

**Пра вельмі цікавы пласт беларускай культуры -- выцінанку, пра яе традыцыі, асаблівасці майстэрства, семантыку ўзору мы размаўляем з гаспадыняй утульнага пакойчыка, членам Саюза мастакоў Беларусі Марыяй Жабінскай. Яна ўступіла ў гэтую творчую суполку як мастацтвазнаўца, аўтар некалькіх кніг. Дзве абавязкова трэба зазначыць: "Мастацтва сяла Неглюбка" (1976 год), "Складзі ўзор сам" (народны арнамент у побыце) (1992 год). У апошняй сабраны крупінкі народнага мастацтва -- ткацтва. "Чамусьці, -- уздыхае Марыя Пятроўна, -- амаль увесь тыраж быў адпраўлены на Украіну".**



*-- А з чаго ўсё пачалося?*

-- З дзяцінства. Нарадзілася я ў вёсцы Карані, што на Смаргоншчыне. Дзяцінства прайшло на хутары каля лесу, пасярод кветак, цішыні, а зімой -- вялікіх гурбаў снегу, матуліных папяровых фіранак на вокнах і ўзораў Дзеда Мароза на шкле. Усё гэта будзіла маю фантазію. І я, на жах мамы, чорным вугольчыкам размалёўвала белую печ. А пасля многа вучылася: мастацкае вучылішча, тэатральна-мастацкі інстытут, аспірантура пры ім. Вучылася, і калі працавала шмат гадоў навуковым супрацоўнікам у рэспубліканскім Доме народнай творчасці. Хаця гэта была іншая вучоба. Вучылася мая душа разуменню прыгожага на канкрэтных матэрыялах, якія сама і расшуквала. Цяпер хочацца перадаць свае веды дзецям.

*-- У дзяцінстве хацелі стаць мастаком, зараз працуеце над адраджэннем беларускага народнага мастацтва...*

-- Так ці інакш, лёс мастака цесна пераплецены з грамадскім жыццём. Калі мая дачка пайшла ў першы клас, я пазнаёмілася з праграмай урокаў малявання і працы. І жахнулася: наколькі яны далёкія ад нацыянальнай культуры. Дзеці робяць простую кардонную скрыначку. Ідзе механічная праца, а не творчасць. А фантазія развіваецца толькі тады, калі рукі твораць.

І я паабяцала сабе, што абавязкова вазьмуся за падручнік па рэдкіх і забытых нацыянальных рамёствах: выцінанцы, пекарскай пластыцы, пісанках. Трэба абавязкова каму-небудзь іх адрадзіць. Можа толькі мастак пачынае разумець, што свет стаіць да таго часу, пакуль існуюць у ім непаўторныя, створаныя рукамі чалавека рэчы.

Як важна чалавека падвесці да спадчыны продкаў не толькі праз песні і мову, але і праз матэрыяльную культуру, напрыклад, праз выцінанку.

Прайшоў час ... дручнік па выцінанцы напісаны і знаходзіцца ўжо ў выдавецтве. Праўда, калі ён выйдзе, невядома: у дзяржавы не хапае сродкаў, а фундатараў пакуль не знайшлося.

*-- Вы ездзілі і збіралі па крупінках народнае мастацтва па ўсёй краіне. А якія асаблівасці беларускай выцінанкі?*

-- Галоўны інструмент для вырабу выцінанак — нажніцы або нож. Паперу складваюць у некалькі столак і выразаюць узоры нажніцамі. Так робяць у Замошшы, Габах, што на Мядзельшчыне, а ў іншых -- нажом ці брытвай (Навасёлкі, Новыя Габы, Азаркі Старыя). Робяць гафрыраваныя паскі відэльцамі, пасля вайны дзірачкі высякалі пустым патронам, а зараз гэта магчыма рабіць дзіркаколам. У народзе лічаць, што нажніцамі можа выразаць узор кожная кабета, а нажом — трэба мець пэўныя здольнасці. Цудоўныя майстры былі ў Стаўбцоўскім раёне, якія адсякалі ўзоры вострым нажом. Дзве манеры выразання -- прыклад таго, што ў беларусаў выцінанкі бываюць двух стыляў. Зробленыя нажніцамі маюць больш геаметрызаваныя ўзоры, у аснове якіх -- круг, эліпс, трохвугольнік, ромб, прамавугольнік, чатырохвугольнік, і форма ўзору залежыць ад таго, як складзена папера. Ва ўзорах выцінанак такога характару найбольш праяўляюцца нацыянальныя асаблівасці мастацкай творчасці беларусаў.

У аснове другіх, выразаных вострым нажом ці брытвай, — матывы больш свабоднага характару, дзе праяўляецца індывідуальнае майстэрства выканаўцы. Аналогію тэхналогіі вырабу такіх выцінака знаходзім у нашых суседзяў -- літоўцаў, украінцаў, палякаў.

*-- Марыя Пятроўна, раскажыце пра семантыку беларускага ўзору.*

-- Самы просты элемент узору беларускай выцінанкі -- лінія. Яна сімвалізуе дарогу, прамень; хвалепадобная -- ваду, змяю; ламаная -- маланку. Трохвугольнік можа абазначаць зямлю, дрэва, чалавека. Знак ромба абазначае таксама сонца. Семантыка чатырохвугольніка -- хата, жыццё, а на запыт аб значэнні прамавугольніка сучасныя майстры не могуць даць дакладнага адказу.

Даўно астыла духмяная гарбата ў кубку. І апусціліся на зямлю зімнія прыцемкі. А мне не хацелася ісці з гэтага пакойчыка, у якім вельмі светла і ўтульна. Хочацца філасофстваваць. Як казалі даўней: "Мастацтва -- гэта туга па бессмяротнасці".

**Яўген КРЫЦКІ.**

# ІШОЎ СВАІМ ШЛЯХАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Карчма ж, згодна з назіраннямі аўтара "Гістарычных звестак...", не толькі месца п'янак, як яе падавалі доўгі час у нашай літаратуры, а і месца, дзе вырашаліся самыя важныя пытанні. Ды лепей даць слова самому Міхаілу Восіпавічу: "Карчма на Беларусі -- сялянскае зборышча ўсіх узростаў і саслоўяў: месца адпачынку пасля работы, зала рады, свавар і танцаў; у ёй вырашаюцца спрэчкі, заключаюцца дамовы, прымірэнні і розныя здзелкі. У ёй у святочныя дні юнакі з дзяўчатамі танцуюць пад скрыпку, а часцей пад свой народны інструмент дуду, падобную на валынку. Нярэдка надаралася, што знаёмства маладых у карчме заканчвалася вянчаннем у царкве".

Ёсць у кнізе і асобны раздзел "Назіранні беларускіх сялян", у якім прыводзяцца народныя прыкметы, якія, думаецца, не лішне і сёння ведаць. Застаецца толькі здзіўляцца кемнасці простых людзей, якія ўмелі дакладна прыкмячаць змены ў прыродзе, знаходзячы ў іх лагічную ўзаемасувязь, тым самым прадказваючы надвор'е, знаходзячы найбольш прымальныя тэрміны для вядзення асноўных сельскагаспадарчых работ і г.д.

Як вядома, за напісанне "Гістарычных звестак..." Без-Карніловіч узяўся ў далёка не маладым узросце (асабліва для свайго часу), ды і адведзена яму ў далейшым лёсам было не так і шмат: памёр 19 студзеня 1862 года. Таму і застаўся ён у гісторыі, па сутнасці, аўтарам адзінай кнігі, бо вышэйзгаданая "Віцебская губерня" стваралася для службовага карыстання і калі дае сёння пэўныя звесткі, што тычацца жыцця Віцебшчыны ў мінулым стагоддзі, дык наўрад ці прывабяць яны шырокага чытача. Чаго не скажаш пра "Гістарычныя звесткі...". Не выпадкова смаленскае выдавецтва "Алфавіт" ажыццявіла ў 1995 годзе яе факсімільны выпуск.

Кніга з неаслабнай цікавасцю ўспрымаецца і сёння, калі, будзем справядлівымі, гісторыка-краязнаўчай літаратуры ўсё ж выходзіць нямала. А што ўжо казаць пра другую палову XIX стагоддзя, у якім Беларусь для многіх і многіх усё яшчэ заставалася "тэра інкогніта". Нездарма М.Чарнышэўскі лічыў гэтае выданне "не бескарысным для тых, у каго пад рукамі няма добрага збору кніг па рускай гісторыі". Не менш высокая ацэнка зробленага Міхаілам Восіпавічам і сучасных даследчыкаў. Так, Г.Кахаmakeоўскі прытрымліваўся думкі, што "М.Без-Карніловіч — адзін з нешматлікіх даследчыкаў старажытнай гісторыі Беларусі, які ішоў сваім шляхам, ён амаль не наследаваў ранейшых вучоных, на многія пытанні гісторыі меў свае погляды, чым і цікавы ў гістарыяграфіі, археалогіі і краязнаўстве".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ГЕБЕНЬ Зоф'я** шукае свайго дзядзьку **ГЕБЕНЯ Паўла Янавіча,** яго дачку **Гелену (па мужу СКОП)** і пляменніцу **СКОП Розіку,** якія перад другой сусветнай вайною пражывалі ў Аргенціне, здаецца, у Расарыю.

**Павел ГЕБЕНЬ** нарадзіўся і жыў да ад'езду за акіян на заробкі ў вёсцы Доўкні Лідскага павета. Іншых звестак пра замежных сваякоў не захавалася.

Калі хто-небудзь ведае нешта пра лёс згаданых сваякоў, просьба напісаць на адрас:
**231300, Рэспубліка Беларусь,**
**станцыя Гутна Лідскага раёна,**
**ГЕБЕНЬ Зоф'і.**

**КРЫУША Васіль Рыгоравіч,** які пражывае ў Германіі ў горадзе Гамбургу, шукае свайго сына **КРЫУШУ Уладзіміра Васільевіча.**

Свайго сына Васіль Рыгоравіч ніколі не бачыў, бо ён нарадзіўся пасля таго, як бацьку ў 1942 годзе немцы прымусова вывезлі ў Германію з вёскі Сенькавічы Івацэвіцкага раёна, разлучыўшы з любімай дзяўчынай Кацяй.

Пра сына Васіль Рыгоравіч даведаўся ад чужых людзей, але знайсці пакуль што не змог. Усіх, хто што-небудзь ведае пра КРЫУШУ Васіля Рыгоравіча, просім паведаміць у рэдакцыю "Голасу Раддзімы" па адрасу:
**220005, Мінск, праспект Скарыны, 44.**
**"Голас Радзімы",**
**для КРЫУШЫ Васіля Рыгоравіча.**

# ЗНОЎ — МЕТРО

Паводле сцвярджэння шматлікіх сведак, дваццацідзевяцігадовы Сяргей К. сам скокнуў на рэйкі пад электрычку, якая прыбывала да перона станцыі метро "Кастрычніцкая". Па гэтай прычыне 26 лютага ў 17 гадзін 38 хвілін быў прыпынены рух паяздоў метрапалітэна. Аднавіўся ён праз 14 хвілін пасля адпраўкі пацярпеўшага ў бальніцу.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, віноўнік надзвычайнага здарэння атрымаў сур'ёзныя траўмы галавы, твару, пераломы канечнасцей. Як ні сумна аб гэтым гаварыць, але, паводле падліку намесніка начальніка Мінскага метрапалітэна па бяспецы руху Аляксандра Ярыгіна, пачынаючы з красавіка мінулага года, ужо чацвёрты раз некаторыя нашы суграмадзяне выбіраюць метро месцам звядзення рахункаў з жыццём.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак.249. Падпісана да друку 4. 3.1996 г.